ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў**

**ZVAZAJ – Magazine, published twice-a-year by Liaison Comm. of Byelorussian War Veterans**
***Address: KSBV, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. M4K 1C2***

Год 4 | Лістапад, 1977 | № 2 (8)

## ПРА ГЭРОЯЎ

Лістападаўскі Дзень Гэрояў спанукае нас паразважаць пра нашых вялікіх продкаў, якіх няшчодрая гісторыя Беларускага Народу паставіла на высокі п'едэстал несьмяротнасьці.

Гэроямі ёсьць людзі, што выказалі надзвычайны спрыт і адвагу, зрабілі нешта вялікае, звычайным людзям недаступнае. Як правіла, гэроі павінны рабіць дабро, Прыкладна, рабаўнік банку, хоць і праявіць вялікі спрыт, кемлівасьць і адвагу, ня будзе гэроем, адно злачынцам, бо дзейнічае ён для собскае матар'яльнае нажывы й на шкоду іншых.

Каб ацаніць нашых, беларускіх нацыянальных гэрояў, варта зірнуць на тое, якім сьвятлом ахутаны гэроі ў дзьвёх супрацьлеглых сыстэмах – таталітарнай і дэмакратычнай.

Возьмем найбольшага гэроя чалавеканенавіснай сыстэмы чырвона-фашыстоўскага бальшавізму Уладзімера Леніна. Гэтага здольнага кансьпіратара, рухавіком дзейнасьці якога была прага ўлады й сілы ды нажывы, паставілі на вышыню ідала. Яму па сьмерці пабудавалі маўзалей і міліёны людзей змушаюць пакланяцца ягонай муміі. Ля гэтага галоўнага бажышча натварылі масу меншых гэрояў. Культ гэройства ўзьняты на найбольшыя вышыні. Ен мае свае мэты, бо ў сыстэме, дзе адкінулі Бога й любоў бліжняга, дзе чалавек чалавеку вораг, там трэба выгадоўваць паслухмяных і баязьлівых нявольнікаў. Створана свайго роду рэлігія, уключна із галоўным бажышчам і "апосталамі". Зь іх нельга жартаваць, бо яны быццам непамыльныя й вымагаюць поўнай паслухмянасьці.

Найбольшы гэрой Амэрыкі, Жорж Вашынгтон, таксама ахутаны вялікай славай і пашанай, але зь яго не зрабілі ідала. Ен быў і астаўся верным Богу й дзеіў для дабра народу. І цікава, што Амэрыканцы дазваляюць сабе жартаваць з Жоржа Вашынгтона й ягонай жонкі Марты. Даводзілася бачыць скэчы на тэлевізійных праграмах, дзе гэрой ці яго сям'я былі паказаны ў камічных сытуацыях. Амэрыканец ведае, што Жорж Вашынгтон быў ня толькі гэроем, але таксама, як і большыня з нас, звычайным чалавекам. Яго шануюць, але ня робяць зь яго нейкага бога.

Цікава, што ў Савецкім Саюзе апошнімі гадамі вырасла і ўзбуйнела навокал Леніна багатая сатыра. Гэта запраўдная "ленініяна", голас паняволеных народаў, што пазналі праўду. Ім адкрыліся вочы й галоўны віноўнік іхнае няволі апынуўся пад абстрэлам. Праўда, гумару гэтаму недаступны друк і сродкі масавае камунікацыі, але жыве ён у вусным фальклёры й "самізда-це". У кантраст гэтаму, нікому ў Амэрыцы й ня думаецца высьмейваць свайго найбольшага гэроя Жоржа Вашынгтона й кпіць зь яго ў такі спосаб як паняволеныя народы зьдзекваюцца з бальшавіцкага бажышча Леніна. Чалавек спрычыніўся да рэалізацыі народных мараў пра свабоду й справядлівасьць і за гэта яму належыцца пашана з удзячнасьцю.

Як-жа Народ Беларускі да сваіх гэрояў адносіцца?

Маскоўскі акупант забараняе шанаваць нацыянальных гэрояў. Для ўтрыманьня сыстэмы гвалту й нянавісьці свайго культу гэройства, паставіўшы на верх пашаны бязбожных вырадкаў і бандытаў, пры помачы масавае крывадушнае прапаганды акупант намагаецца зьнявечыць і зьняславіць запраўдных народных гэрояў. Прарока нашае зямлі, Янку Купалу, што клікаў і вёў Беларусаў на змаганьне за свае правы, акупант зрабіў мізэрным слугой зьненавіджанае чужое сыстэмы, падпрог яго ў гурт шматлікіх бальшавіцкіх гномаў, вырадкаў народных. З Кастуся Каліноўскага акупант зрабіў сацыяльнага рэвалюцыянера.

Але ў народнай памяці й пашане асталіся сьветлыя постаці вялікіх сыноў і дачок, аблічча якіх ня спляміць ніякі чужы акупант. Іхныя дзеі – гэта дзеі вялікага й слаўнага народу. Ня кіраваліся яны ні прагой нажывы, ўлады ці сілы. Працавалі й змагаліся, каб народ здабыў волю, асьвету, трымаўся Бога, каб чалавек чалавеку братам, а ня ворагам быў.

Характэрна, што гэроі нашы выйшлі пераважна з народных гушчаў. Адтуль выцякала іх сіла й духовая перамога над нікчэмнымі ворагамі. Постаці іх асталіся чыстыя як крынічная вада ці сьляза гаротнае маці, а памяць па іх прыгожая й сьветлая, як зарніцы ўзыходзячага сонца.

У кажны лістападаўскі Дзень Гэрояў мы, на эміграцыі, чытаем сымбалічную лісту нацыянальных Гэрояў. Іх шмат і, бязумоўна, ўсіх згадаць нельга. Але ў сваіх малітвах да Бога і ў гутарках на ўрачыстасьцях мы думаем пра ўсіх. Яны – часьць нашае вялікае, змагарнае гісторыі, непакорнага народнага духу і вечна жыць будуць з намі. Мы ведаем, што народ, які змог даць такіх выдатных людзей, ніколі не загіне, ён здабудзе сабе волю!

# КУРЫЛАВІЧЫ

Два кілямэтры на поўнач ад Язна, на шляху зь Дзісны на Празарокі, ляжаў маёнтак ведамага на ўсю Дзісеншчыну добрага й прыкладнага гаспадара Беларуса Мурашова. Абшырны двухпавярховы палац зь бярвеньня, абшалёваны звонку й абшчукатураны знутры, разьмясьціўся на правым баку рэчкі Курылаўка, што бегла ў Аўту, а потым разам зь Дзісенкай улівалася ў Дзьвіну ля самае Дзісны. Паветавая дарога перацінала рэчку на поўдзень ад маёнтку й бегла на ўсход ад яго. У вілах, утвораных рэчкай і дарогай і ляжаў маёнтак. Ад палацу аж да польнае дарогі з усходу пышна расьлі садовыя дрэвы, а густыя лістоўніцы засланялі галоўны будынак ад паўночных вятроў. Дом загадчыка й дамы земляробаў памясьціліся гэтта-ж на поўнач ад палацу. Паркан абхапіў увесь парк, пачынаючы ад рэчкі Курылаўкі й далей на ўсход, уздоўж селавой дарогі, што бегла ў вёску Лычакова. Гаспадарскія будынкі, хлявы й гумно, дый таксама колькі сялянскіх хат раськінуліся паабапал селавой дарогі з усходняга боку яе. Усе Курылавічы зелянеліся лістоўніцамі, рабінай, калінамі й садамі. На поўнач ад Курылавіч Мурашоў шнурам пасадзіў добра ўтрыманы гонкі сасновы лес, што падчас вайны служыў добрым прыкрыцьцём для бальшавіцкіх бандаў, якія тут праходзілі зь Ліпавага Востраву ў Жадзе ў Пліскі Бор, дзе праходзіла чыгунка з Каралеўшчыны на Полацак.

У пачатку 1943 году Немцы зарганізавалі ў Курылавічах стаянку паліцыі. У ліку трыццацёх чалавек былі два нямецкія жандармы, адзін аграном Галандзец. Паліцыйны гарнізон меў ахоўваць Курылавічы й вакольныя вёскі ад бальшавіцкіх рабаўнікоў, што забіралі хатнюю жывёлу, харчы, гадзіньнікі, вопратку й іншае. Пры дапамозе валасных старшыняў Празарок, Пліса, Язна, Мікалаева, Мёраў, Лужак і Дзісны паветавая ўправа паклікала ў Курылавічы ў паліцыю самых лепшых Беларусаў. Толькі заступнік каманданта Ярашэвіч выводзіўся зь мясцовае "лазовае" шляхты, якую сяляне называлі "поўпанкамі"; ён-жа быў жанаты з Полькай дый сам пісаўся Палякам.

Пакліканыя ў паліцыю дзяцюкі мелі за сабой пераважна польскія вайсковыя школы, бралі ўдзел у вайне ў 1939-м годзе, некаторыя пабывалі і ўцяклі зь нямецкага, іншыя-ж былі ў савецкім палоне. І па прозьвішчах дзяцюкі складалі ледзь не камплетную флёру й фаўну: камандант Воўк, дружынныя – Казёл, Баран і Трус, заступнікі – Лось, Заяц і Мышка, а далей – Мядзьведзкі, Кажан, Варона, Сойка, Сініца, Салавей, Чачотка, Акунь, Карась, Курмель, Сасна, Дубоўскі, Салата, Качан, Шчумель, Жук, Рамашка, Баба, Мятла, Пячурка й Бобік.

Найгоршай працай гарнізону была дастава харчоў. Раз на дзесяць дзён дзьве трэціх асабовае сілы, паклікаўшы дзесяць хурманак з суседніх вёсак, ехалі ў адлеглыя звыш за 20 км Палівачы. Хурманом "падводчыкам" выдаваліся на дарогу харчы й зброя для абароны ў выпадку нападу.

З аўтаматычнае зброі ў гарнізоне быў адзін цяжкі Максім, тры ручныя Дзегцяровы, адна "фінка"*, адзін пісталет з барабанам Наган, што быў у дыспазыцыі каманданта. Выезд па харчы рэдка адбываўся безь перастрэлкі з бандамі. Гэтак аднойчы загінуў заступнік каманданта Ярашэвіч, якога потым замясьціў Акунь. Паліцыю падтрымлівала насельніцтва. Гэтак прыходзілі весткі аб пераходах бальшавіцкіх бандаў, на якія звычайна рабіліся ўдалыя засады. Заскочаныя неўспадзеўкі, бандыты пакідалі нарабаванае дабро й навет сваіх раненых.

Ведама было, што калі банда выходзіла з Пліскага Бору то пойдзе на Ліпавы Востраў і ведама таксама якой дарогай пройдзе. У такім выпадку засада Курылаўцаў ліквідавала банду. Калі-ж прыходзіла вестка ад жыхароў з Касьнікова ці Цьвецціна то ведама было, што банда зьбіраецца "на акцыю" на чыгунку ў Пліскі Бор і прыдарожныя вёскі будуць абрабаваныя. Мяркавалася дзе найлепш было бандытаў сустрэць і разграміць. Курылаўскі гарнізон ніколі не паляніўся перасеч бандзе дарогу. Адабранае ў бандытаў дабро прывозілася ў Курылавічы й раздавалася абрабаваным сялянам.

Падчас аднэй з такіх засад непадалёк Цьвецціна добра абстралялі бандытаў. Перастрэлка трывала гадзіну ці больш. Калі разьвіднелася то на адным з пакінуытх вазоў было шмат крыві. Сьлед па расе вёў да дарожнага мосту, пад якім схаваўся ранены "партызан". Узброены ў новенькі хуткастрэльны кулямёт, ён меў вайсковую кніжку афіцэра РОА, што мясьцілася ў Лужках. А хто былі ўцёкшыя "партызаны"? Па загаду нямецкага камісара Глыбокага, гэтага раненага "партызана" забрала ўласаўскае СД з Лужак, быццам на допыты. Але скуль ведаў камісар Глыбокага, што гэты ранены "партызан" зьяўляецца палонным гарнізону ў Курылавічах?

У аднэй з начных засад згінуў малады паліцыянт Валодзя Ф. з Паўлавіч. У цёплую купалаўскую ноч на адным хутары Забалоцьця недалёка ад Курылавіч бандыты замардавалі маладую дзяўчыну, што сама жыла ў хаце. Налічылі 17 куль у твары, відаць, адданых ва ўпор. Нічога ня было зрабавана. Мяркавалася, што забойца зьявіцца на месца праступку. Ярашэвіч пастанавіў зрабіць засаду. Была ягоная нагода, бо чаргаваўся з камандантам Ваўком. З дванаццаці чалавек ён зрабіў дзьве засады. Антося Д. і Валодзю Ф. выслаў на подслух да дарогі каля хутара дзядзькі Ігната Ш., добрага гаспадара й шчырага патрыёта Беларуса. Паліцыянты затрымаліся пры студні гэтага хутару. Раптам гукнуў стрэл і Валодзя Ф. зь енкам ад болю паваліўся каля студні. Куля навылёт прабіла жывот і ён памёр падарозе ў Курылавічы. Раніцай Ярашэвіч арыштаваў дзядзьку Ігната Ш., даводзячы, што гэта ён забіў Валодзю Ф. і намагаўся расстраляць бязь ніякага допыту. Аднак Воўк загадаў пасадзіць селяніна ў варыўню пад палацам і казаў, што сам выслухае абвінавачанага.

У гэны-ж дзень, на Сьвятога Яна, хавалі пазьверску закатаваную дзяўчыну. Воўк і тры дружынныя былі на паховінах. Быў гарачы дзень. Воўк зайшоўся на хутар Ігната Ш., папрасіў вады. Гаспадыня падала кубак сьвежай сьцюдзёнай сьмятаны. Падзякаваўшы, Воўк спытаў яе, чаму ейны Ігнат забіў маладога Валодзю Ф., хоць сам быў няпэўны гэтага. Да чыста апранутай маладой жанчыны туліліся, апранутыя ў даўгія сама-

*/ *"фінка", – калібру 9 мм кароткі аўтамат з круглым дыскам на 100 патронаў, вельмі добры ў баёх на кароткі засяг.*

тканыя порткі, басаногія сінявокія й сьветлавалосыя сынкі, гадоў 8-10. У вадказ на пытаньне жанчына горасна заплакала й сказала: – Браток, Жэнічка, мой Ігнасёк ніколі ня думаў, што гэта нашы. Гэта-ж толькі бальшавіцкія валацугі штонач лазяць каля вуглоў!

Ня было сумлеву, што Валодзя Ф. згінуў з рукі Ігната Ш. Гаспадыня нясьціхна плакала й прасіла пусьціць да дзяцей ейнага Ігнаську. Ужо ў парозе, на ейнай патрэсканай ад працы далані спасьцярог Воўк некалькі залатых манэтаў з царом Мікалаем. Гэты дурны звычай увёў у нашым народзе вораг. Кажны, хто меў сілу, выкарыстоўваў дабрату Беларуса. Але ў памяці Ваўка жыла прыказка: "Золата – багацьце, золата й сьмерць". Сьмерць чакала кажнага, а тым больш тых, што насілі зброю. Камандант адсунуў цётчыну руку й сказаў: – Гэтыя вашыя мазалі трымайце для сябе, а заўтра ваш Ігнасёк будзе дома. Ён выйшаў з хаты быццам аплявуху атрымаўшы.

Трэба было даведацца, скуль Ігнат Ш дастаў стрэльбу, калі Немцы, пад пагрозай кары сьмерці, забаранілі цывільнаму насельніцтву мець зброю. Выявілася, што ня толькі Ігнат, але й шмат іншых Беларусаў з даверам і выдатных патрыётаў тайна атрымалі стрэльбы й амуніцыю для самаабароны ад старшыні Колі К., зацятага ворага бальшавіцкіх сталінскіх бандаў.

Каго-ж тады трэба пакараць за адабраньне жыцьця ў адзінага ў бацькі сына, адданага абаронцу беларускасьці, маладога й жыцьцярадаснага Валодзі? Добра разважыўшы, вінаватыя былі два, а кары ў часе вайны былі вядомыя. А ці пакараньне аднаго й другога спыніць сьлёзы бацькоў і верне ім сына? І так вакол зашмат было магілаў.

На вялікае незадаваленьне Ярашэвіча, які ўпорыста дамагаўся, каб расстраляць Ігната Ш., Немцы дазволілі адпусьціць селяніна дамоў і на наступны дзень раніцай ён быў ужо пры сям'і. Што-ж да намаганьняў Ярашэвіча, дык ведама, што Палякі мелі заданьне вынішчаць усіх ідэйных і сьведамых Беларусаў на "крэсах усходніх", каб пасьля вайны лягчэй было пабудаваць на беларускіх землях сваю "Жэчпаспалітую".

Курылавіцкаму гарнізону штораз часьцей даводзілася напатыкаць бальшавіцкія банды й весьці зацятыя сутычкі, а пераважна пры даставе харчоў з Палівачоў. Даводзілася прасіць Немцаў, каб на перавоз харчоў давалі падмацаваньне. Для канвою Немцы прызначылі Чэхаў з танкам.-Чэскія танкісты былі маладыя й ветлівыя хлопцы. Зь імі можна было лёгка дагаварыцца навет пабеларуску. Яны ахвотна праводзілі нашых ледзь не да самых Курылавіч, хоць Немцы загадвалі ім толькі да паловы дарогі. Чэхі ня былі прыязныя Немцам, а зь Беларусамі хутка пасябравалі, зжыліся як браты й перадавалі нам шмат дабра, асабліва папяросаў, табакі, сярнічак, шнапсу й навет новае зброі.

У верасьні на адной з засад злавілі коннага сувязнога "партызанаў". Быў гэта малады хлапец Мядзьведзкі зь Медзьвядзёва, Мікалаеўскае воласьці. Гэтага хлопца Альфонс Б. "вывеў у расход". Лучнік гэты выяжджаў зь Ліпавага Востраву й вёз "прыказ атраду Кутузава" ў Пліскі Бор. У загадзе было напісана: "стянуть все вооруженные силы для ликвидации изменников родины". Ані месца ні даты гэнае ліквідацыі што мае адбыцца, ня згадвалася. Але ад лучніка даведаліся, што як толькі згуртуюцца патрэбныя "вааружонныя сілы", тады яны-ж зьліквідуюць гарнізон Курылавічы.

Гэта было верагодным, бо Курылаўскі гарнізон быў для бандаў косткай у горле. Пачалася падрыхтоўка да абароны. Пабудавалі тры зямлянкі (бункеры) з добрым полем абстрэлу для ручных кулямётаў, спалучылі іх акопамі сувязі із становішчамі для стральцоў, выкапалі дабяговы роў ад палацу да акопу, а каб засланіць выхад з палацу, укапалі паўдугой бярвеньне ўстойку мэтры тры вышынёй. Прасілі ўзмоцніць адзьдзел лічбова, але ў вадказ атрымалі толькі тры скрынкі ручных гранатаў.

У пачатку кастрычніка прыходзілі частыя весткі ад насельніцтва пра рух бандаў і то з усіх бакоў: Чарневіч, Уліна, Цьвеціна, Басянкі. У палове кастрычніка гэныя банды былі ў ваколіцах Капцюгоў і Кіпелева, а разьведка ў Язьне; з другога боку – ў Разьдзёрцы, Паўлавічах, а разьведка ў Сойчыне, ізноў у Цьвеціне. Было відаць, што сталінскія банды сьціскаюць вакол Курылавіч персьцень.

Курылаўцы рыхтаваліся бараніцца да апошняга патрону й кажны казаў:"зьгіну, але з гонарам, а ніколі мучаніцкай сьмерцю з рук сталінскіх апрычнікаў". Пэўным было, што напад адбудзецца ноччу й мяркавалася, што перад днём крывавай "кастрычніцкай рэвалюцыі".

Так яно й было. Перад самай поўначай вартавыя пад камандай дружыннага Антося Д. абстралялі мост на Курылаўцы, скуль пачулі тупат ног перабягаючых напасьнікаў. Нападу чакалі ўжо добры тыдзень. Усе хлопцы спалі ў вопратцы, із зброяй побач і гранатамі за пасамі.

Пачуўшы стрэлы, усе, як адзін, не чакаючы загадаў, кінуліся на свае абаронныя становішчы. А загад гучэў проста: "На бой!" І некаторыя сьпевам даказалі: "за шчасьце і за волю народу слаўнага свайго!" На гэта акружаючыя бандыты адказалі заліўным агнём, зь дзікім рыкам "ура й кроўю... такую іх бога маць!" і рынуліся на акопы. Узрывамі ручных гранатаў, густым адпорным кулямётным агнём і ручной зброяй адказалі на бандыцкае "бога маць". Сакатаў і цяжкі кулямёт. Густыя праклёны, пераважна чыста парасейску "па матушке" замянілі ранейшае "ура і бога маць". Варожы агонь слабеў, а Курылаўцы ня спынялі свайго. Каб прыпячы абаронцаў, напасьнікі падпалілі хлявы. Жывёла ў хлявох падняла мучаніцкі енк: ірзалі коні, раўлі каровы, цяляты, бляялі авечкі і, як-бы іх рэзалі, пішчэлі сьвіньні. Адна курылавіцкая жанчына, зьлітаваўшыся над жывёлай, не зважаючы на бязупынны рогат зброі з двух бакоў, кінулася адчыняць хлявы. Дзікая ад страху, некаторая ахопленая полымем, жывёла разьбеглася па вёсцы.

Зброя ня спынялася. Калі заціх каторы Дзегцяроў то толькі для таго, каб зьмяніць амуніцыйны дыск. Варожыя кулі з прарэзьлівым трэскам ляскалі па камлёх дрэваў і гальля над галовамі ды за плячмі абаронцаў. Па некаторым часе агонь з хлявоў перакінуўся на гумны, ля якіх неўзабаве загарэліся стагі саломы.

Цёмная ноч зьмянілася ясным днём і асьвяціўся вораг. Тых напасьнікаў, што заляглі за вуліцай перад акопамі абаронцаў, можна было лёгка выкурыць ручнымі гранатамі і ўжо цэльным агнём ручной зброі. Цяжкі кулямёт сакатаў, але штораз часьцей спыняўся.

Маскалёк Якуш К., што падаваў кулямётную стужку,

быццам асінавы ліст тросься зь перапалоху. Здавалася, што стужка пякла яму рукі, бо перахопліваў яе нэрвова й падаваў пераскокамі, што зацінала кулямёт і "Максім" не пляваў, а толькі зь перапынкамі кашляў. Воўк, што добра знаў цяжкі кулямёт, пакінуўшы пры "Максіме" маскалька, што яшчэ не апанаваў перапалоху, пабег да абслугі "Дзегцяроў", каб праверыць колькасьць амуніцыі. Паводле ягоных падлікаў, амуніцыі да дня забракне бо ўжо каля шасьці гадзінаў трываў бязупынны бой. Зьмяркаваўшы, што амуніцыі хопіць ня больш як на дзьве гадзіны, загадаў абстрэльваць толькі больш агрэсыўныя пункты праціўніка, ашчаджаючы як мага патроны. Не спасьцярогшы нідзе нямецкіх жандармаў, Воўк пачаў іх шукаць і неўзабаве знайшоў у варыўні пад палацам. У прачыненых дзьвярох варыўні з рэвальвэрам у руцэ стаяў Галандзец Янцэн, а Немцы, седзячы на глінянай падлозе, узброймалі ручныя гранаты і, відаць, адганялі перапалох "шнапсам", бо недапітая пляшка стаяла каля скрынкі ўжо ўзброеных гранатаў. Гэтым пажылым Немцам, добра адкормленым, ня вельмі падабалася пакідаць зацішную варыўню, але Воўк казаў ім перабегчы ў правую зямлянку, дзе, здавалася, было найгарачэй.

Узяўшы зь сярэдняга бункера Бобіка й Антося Д. зь "Дзягцяром", Воўк, прыкрыты правым "Дзегцяром" высунуўся пад заслонай кустоў і дрэў аж да самай паветавай дарогі і адгэтуль адчынілі агонь па дарозе, дзе стаялі вазы "партызанаў". Заірзалі коні, загрукаталі калёсы, пачуліся крыкі й праклёны, засакатаў варожы "Дзягцяр" ад мосту справа і зза хат зьлева. Злосна сьвісталі кулі, адбіваючыся рыкашэтам, але "Дзягцяр" з правае зямлянкі трапным агнём выбіў варожага "Дзегцяра" каля мастка й "вызадзісты" змаглі перабегчы ў зямлянку, дзякуючы агнявой аслоне правага кулямёту.

Антось Д. й Бобік зь "Дзегцяром" пабеглі на свае становішча ў сярэдні бункер, Воўк да цяжкога кулямёту, а Маскалёк Якуш К. недзе змыўся й камандзер ужо ня мог засакатаць з "Максіма". Кулямёт плюнуў пару разоў кароткай сэрыяй і зацяўся...

Пажар бушаваў, полымя ярчэла а дым з чорнага зрабіўся белым і якбы прасьцірадлам засланіў неба. Раптам чырвоная ракета перарэзала белае прасьцірадла дыму, нарысавала вялікую дугу й з трэскам рассыпалася шматлікімі зоркамі. Варожы агонь раптам спыніўся, хутка мела днець. Хіба гэта сыгнал да апошняе атакі? Чырвоная стужка ракеты расплылася, пашырэла на белым палотнішчы і ўсё гэта лёгка варушылася, быццам бел-чырвона-белы сьцяг.

Пачынала днець. Па замерзлай дарозе чуваць быў грукат калёсаў. Банды адступалі ў кірунку Цьвеціна й наапошку ўсё заглохла. А над Курылавічамі ў полымі ўсё яшчэ трымаўся, калыхаўся й шырэў бел-чырвона-белы сьцяг, вытканы з дыму пажару й ракетнае стужкі. З навакольных вёсак, — далейшыя коньмі, бліжэйшыя пехатою, пачалі зьбірацца людзі, каб навочна агледзіць пабоішча. Моладзь, старыя, мужчыны й жанчыны — гэта быў праўдзівы кірмаш, як на Сьвятога Яна ў Чарневічах. Дзяўчаты папрыносілі кветкі й дарылі іх пераможцам Рабінавае Начы ў Курылавічах. Прыляцела й Пташынка Ліда з Лычакова й пасяброўску, шчыра й горача выцалавала замурзанага камандзера абароннага гарнізону. Прыгожая й шчабятлівая Пташынка Ліда, беларуская настаўніца, мела аднак большую прыемнасьць шчабятаць акупантам чым сваім; яна добра ведала нямецкую мову, што памагала здабыць сымпатыі чужынцаў.

Зрабілі зборку, хлопцы выстраіліся ў два рады. Усе былі замурзаныя сажай пажару й дымам пораху, з задаваленьня перамогі толькі блішчэлі вочы й сьвяціліся з-за пасінелых ад смагі й перамучаньня вуснаў зубы. Бракавала толькі аднаго маскалька Якуша К., які зь перапалоху, напэўна, недзе схаваўся. Усе абаронцы былі жывы й здаровы, толькі Воўк меў закрываўленыя пальцы правае рукі, але ён не зьвяртаў на гэта ўвагі й болю не адчуваў.

Пасьля прыемнага прывітаньня з насельніцтвам, абаронцы з патрыятычным пачуцьцём адсьпявалі "Беларусь, наша Маці-краіна, Ты з нас моцных зрабіла людзей". Насельніцтва памагала сьпяваць, часта выціраючы сьлёзы ўдзячнасьці й задаваленьня. Загудзеў матор і перад зьбранымі зьявіўся самаход нямецкага камісара Глыбокага. Выцягнуўшы правую руку наперад, ён прывітаў усіх ведамым "хайль Гітлер". Толькі жандармы адказалі "хайль". Кажнаму з абаронцаў камісар падаў руку. Рапарт пабеларуску здаў камісару камандзер Воўк, а Пташынка Ліда пераказала яго панямецку. Жандармам і Воўку камісар прыабяцаў даць вялікую вайсковую ўзнагароду "рытэр кройц", ды паабяцаў падаслаць на помач РОА (ўласаўцаў) з Лужак. Разьвітаўшыся тым самым "хайль Гітлер", ён ад'ехаў.

Дзіўна было, што аж з Глыбокага прыехаў сам толькі з шофэрам, калі ўсюды было поўна бальшавіцкіх бандаў. Ды ён, пры супрацоўніцтве сваей перакладчыцы панны Догуўны з польскім падпольлем, ведаў пра кажную дзейнасьць бандытаў і ведаў, пэўне-ж, даўно пра плянаваны напад на Курылавічы ды мяркаваў, што мы зьгінем.

Папаўдні гэнага-ж дня прыехала цэлая рота ўласаўцаў. На ўзгорку, направа ад дагараючага гумна паставілі шэсьць цяжкіх кулямётаў і гадзіну часу трымалі, бязь ніякага прыцэлу, агонь у кірунку Цьвецінскага лесу, куды адыйшлі "партызаны". У гэты час рэшта роты РОА паехала на "разьведку", скуль вярнулася з поўным возам самагонкі. Пілі цэлую ноч, а закуска — папаленая бараніна, была на месцы. І настраляліся-ж, пап'янаму, уволю аж да раніцы. Нарабіўшы так шмат шуму, наладавалі вазы папаленай жывёлай, ды страляючы для ўцехі пад арозе, ад'ехалі ў Лужкі.

Маладога маскалька Якуша К. знайшлі ў Курылаўцы тры дні пасьля бою. Бандыты мяркавалі, што ўвесь гарнізон будзе ўцякаць рэчкай і падрыхтавалі засаду. Маскалёк, здурэлы зь перапалоху, ўцякаў рэчкай, дастаў кулю ў жывот вышэй паясьніцы і, страціўшы сілы, утапіўся.

Кажны чалавек баіцца сьмерці, якую нясе вораг. Хто трымае зброю ў руках, той можа абараніцца, а той хто зь перапалоху ўцякае, той напэўна загіне.

У баі з гарнізонам паліцыі ў Курылавічах бандыты мелі забітых і раненых, але на полі бою нікога не пакінулі. Жыхары Цьвеціна пазьней данесьлі, што пазьбіралі ў іх усё, прыдатнае для агляду ранаў. Чулі енкі. Забітых закапалі ў лесе, а на магіле паставілі бярозавы кол з чырвонай шматай. Гэта з вуснаў насельніцтва, а ці гэта праўда — ня ведаю. Хто-б у той час пайшоў адкопваць забітых бандытаў, каб іх палічыць?

*Апісаў навочны сьветка А. Пярун*

*Заўвагі ад "Зважай".*

У ноч вялікага нападу бальшавіцкіх бандаў на Курылавічы, меншая банда, для дывэрсіі напала на абарону мосту, што на Дзісенцы на акраіне гораду Дзісны. Абстрэльвалі бункер пры масьце, дражнілі, каб перасеч магчымую помач Курылавічам з адлеглага на 12 км гораду.

*У Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі (БелСЭ),* том восьмы, на бачынах 183-184 чытаем наступнае: "Партызанская брыгада імя Г.К.Жукава дзейнічала ў Айч. вайну на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэрыторыі Вялейскай вобласьці (Браслаўскі, Мёрскі, Дзісенскі р-ны)". І далей: "партызаны... 18-19.7.1943 разграмілі буйны варожы гарнізон у в. Курылавічы, які знаходзіўся на скрыжаваньні дарог і перашкаджаў партыз. атрадам рухацца на захад".

Мы ня чулі пра "разгром" Курылавіч 18-19 ліпеня. Наша беларуская паліцыя спакойна рабіла засады на бандытаў, адбірала ў іх і зьвяртала сялянам зрабаванае дабро. Дык мо пра іншыя Курылавічы мова? Чытаем наступны сказ: "21 ліпеня правялі бой каля в. Шпакоўшчына, у ноч на 1-га жнівеня напалі на гарнізон у в. Гарманавічы Шаркоўшчынскага р-ну, дзе спалілі маслазавод і склады з прадуктамі".

Мясцовасьці й даты блізкія, значыцца гаворка йдзе пры тыя самыя Курылавічы. Неабходна паверыць, што ў Гарманавічах спалілі малачарню й склады, перад тым іх абрабаваўшы. Ну а што Курылавічы "разграмілі", дык гэтта, відаць, столькі праўды, як у тым, што Сталін бацькам усіх народаў быў.

Шыла зь мяшка вылазіць на бач. 280-й: "10.7.1943 г. з в. Клясьціцы Расонскага р-ну выйшла ***партызанская брыгада імя Г.К.Жукава,*** перасекла чыгунку Полацак - Рыга, фарсіравала Зах. Дзьвіну і выйшла ў раён в.Шпакоўшчына Ветрынскага р-ну. У ноч на 19 ліпеня р а з а г н а л а (падчыркнута намі – Рэд.), гарнізон у в. Курылавічы, адбіла прасьледаваньне праціўніка, фарсіравала Дзісну".

Вось табе й на!

Аўтары БелСЭ з бачынаў 184 і 280 не згаварыліся, відаць, што нахлусіць пра тыя Курылавічы. Дык на бач. 184 ***"разграмілі буйны варожы гарнізон"*** а на бач. 280 адно ***"разагналі"*** яго а пасьля ***"адбілі прасьледаваньне праціўніка".***

Калі-ж вы, "гэроі", разграмілі запраўды, ці хаця-б разагналі той "буйны" гарнізон, дык чаго тады ўцякалі ды яшчэ "адбівалі прасьледаваньне"?

Мова ідзе тут, відаць, пра напад на Курылавічы, дзе бальшавіцкія бандыты пацярпелі апаразу.

Гэты прыклад яўнай хлусьні ў БелСЭ сьветчыць пра тое, як бальшавікі, пішачы гісторыю, выкрыўляюць, на ганьбу самым сабе, розныя факты. Прыгадваецца той аж да нуды разрэклямаваны, "слаўны залп Аўроры" ў Петраградзе па Зімнім Дварцы, што быццам даў сыгнал пачаць бальшавіцкую контррэвалюцыю. Адно бальшавікі ніколі ня згадваюць, што Аўрора стрэліла пустым ("халастым") знарадам...

А што-ж, паводле гэных нямудрых партыйных гісторыкаў, здарылася ў Курылавічах у кастрычніку, значыцца як, паводле іх, выглядаў бой апісаны нашым аўтарам" ?

БелСЭ на бачыне 280 падае: "У пачатку кастрычніка 1943 г. з Расонскага раёну ў Дзісенскі прыйшла ***партызанская брыгада 4-я Беларуская".*** І ўсё. Чаго пайшла тая брыгада ў Дзісенскі раён? Адно рабаваць ці таксама "буйны варожы гарнізон" у Курылавічах разганяць?

Бязумоўна, мы ня ёсьць наіўнымі, каб спадзявацца, што ад пісакаў, якія працуюць пад загадамі гаспадароў ГУЛАГ'у й няслўных псіхушак, даведаешся праўду.

## *МОЖНА БЫЛО АБДУРВАЦЬ МАСКОЎСКАГА ЦАРА, АЛЕ НЕ ЦЫВІЛІЗАВАНЫ ЗАХАД*

Час ад часу заходняя прэса паведамляе пра затрыманьні ворганамі бясьпекі савецкіх або ўсходня-эўрапэйскіх шпіёнаў, якія зьбіраюць весткі пра вайсковыя аб'екты Захаду або фатаграфуюць іх. Звычайна ў такіх выпадках мясцовыя ўлады гэтых злоўленых на гарачым учынку агентаў проста выкідаюць з краіны, лічачы, зусім слушна, што ў наш атамны век, век штучных спадарожнікаў і электронікі, падобныя прымітыўныя спосабы шпіёнства не ўяўляюць сабою сур'ёзнай небясьпекі. Пра прымітыўнасьць-жа Маскалёў у гэтай галіне сьветчыць яшчэ й той факт, што, каб абмануць Амэрыканцаў, яны пабудавалі ў сябе з фанеры масу ракетных установак. Аб выкрыцьці амэрыканскай разьведкай гэтых "пацёмкаўскіх" пабудоваў пісала нядаўна заходняя прэса. Амэрыканскі часопіс "Нюсвік" паведамляў у 1974 годзе пра выкрыцьцё 800 падобных установак, якія мелі служыць, у выпадку патрэбы, для ўвядзеньня ў зман нізкалётныя бамбавікі праціўніка а таксама ракеты далёкага засягу.

У 1972 годзе, у амэрыканскім ілюстраваным часапісе "Рампартс" быў зьмешчаны артыкул былага ўрадаўца Амэрыканскага Агенцтва Нацыянальнай Бясьпекі Уінслява Бэка (псэўданім), у якім ён пісаў, што амэрыканская сетка электроннае разьведкі ня толькі кантралюе рух кажнага савецкага самалёту й кажнае савецкае падводнае лодкі на сьвеце але мае таксама й ключ да савецкае сыстэмы шыфраў найбольш тайных вайсковых інфармацыяў. Гэтае Агенцтва, цэнтральнае кіраўніцтва якога знаходзіцца ў Форт Мід ля Вашынгтону, зьяўляецца цэнтрам амэрыканскай вайсковай разьведкі. Яго дзейнасьць акружана найбольшай тайнай. Бюджэт Агенцтва дасягае сумы аднаго міліярду даляраў у год. Працуе ў ім больш чымся 100 тысяч людзей.

Паводле ўспомненага аўтара, удасканаляная Агенцтвам сыстэма электроннага назіраньня дае Амэрыканцам інфармацыі ня толькі пра рух савецкіх марскіх і паветраных вайсковых адзінак разам з дакладнымі весткамі пра месца знаходжаньня ракетных палігонаў, а і пра месца знаходжаньня галоўных палітычных і вайсковых кіраўнікоў Масквы. Уся савецкая тэлекамунікацыйная сыстэма настолькі пранікнута падслухова-перахопліваючымі амэрыканскімі станцыямі, што Агенцтва Нацыянальнай Бясьпекі мае навет запісаную на стужку размову Касыгіна з касманаўтам Камаровым, што адбылася дзьве гадзіны перад катастрофай касмічнага карабля "Саюз 1" у 1967 годзе. Наогул

*(Канец на бачыне 6-й)*

*В. Сенкевіч*

## ПРА ЎДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ НА ЗАХОДНІХ ФРАНТОХ ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

З прычыны гістарычных абставінаў, якія склаліся на нашай бацькаўшчыне ў 1917 - 1921 гг., у час 2-й Сусьветнай Вайны Беларусы былі змушаныя змагацца на ўсіх франтох, пад рознымі сьцягамі і, вельмі часта, супраць сваіх нацыянальных інтарэсаў (справаў). У выніку, магілы нашых братоў, што загінулі на вайне, можна знайсьці ўва ўсіх куткох сьвету. На жаль, пра ўдзел Беларусаў у ваенных дзеяньнях, пра іхны ўклад у перамогу над гітлераўскай Нямеччынай напісана зусім мала, не гаворачы ўжо пра чужынцаў, якія наогул пра гэта нічога ня ведаюць. Праўда, пра ўдзел Беларусаў у савецка-нямецкай вайне, пра вялізарныя страты беларускага народу ў ёй ды пра гэраізм шмат якіх Беларусаў – жаўнераў Чырвонай Арміі, у савецкай гісторыяграфіі матар'ялаў можна знайсьці даволі шмат, асабліва што адносіцца да савецкае партызанкі ў Беларусі. (1)

Аднак савецкія аўтары зыходзяць з чыста партыйных мяркаваньняў і таму матар'ялы гэтыя маюць характар аднабаковы й суб'ектыўны. Прычым справа насьвятляецца так, быццам Беларусы змагаліся за камунізм, за савецкую ўладу, за единую неделимую", да гэтага зь вялікім энтузьязмам, дзякуючы іхнаму "савецкаму патрыятызму".(2) Змаганьне-ж Беларусаў на другіх франтох, несавецкіх, асабліва на баку заходніх хаўрусьнікаў, наагул замоўчваецца (3). У беларускім эміграцыйным друку, апрача надзвычай цэннай аповесьці Кастуся Акулы "Змагарныя Дарогі" (4), на гэтую тэму можна знайсьці тое-сёе ў форме кароткіх артыкулаў або ўспамінаў. Аднак матар'ялы гэтыя параскіданыя па розных выданьнях і яны мала даступныя для дасьледчыкаў, асабліва чужаземных гісторыкаў.

У сувязі з гэтым настала пара заняцца гэтым пытаньнем. Асабліва трэба ўстанавіць прыблізны лік Беларусаў, якія змагаліся на заходніх франтох а таксама лік тых, што загінулі ў гэтым змаганьні, што і ёсьць мэтай гэтага артыкулу.

У 1946 годзе, калі мы рабілі першыя крокі ў тварэньні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) (5) і калі нам быў патрэбны дазвол польскіх вайсковых уладаў на тое, каб жаўнеры Беларусы маглі да яго належаць, аўтару гэтых радкоў, у той час дваццацігадоваму юнаку, каб дазвол гэны атрымаць, прышлося было сустрэцца зь ген. Капанскім, шэфам штабу Галоўнакамандуючага Польскіх Узброеных Сілаў на Захадзе (памёр у Лёндане, у сакавіку мінулага году). У час сустрэчы (6), якая трывала добрай паўгадзіны, ген. Капанскі, між іншага, закрануў пытаньне колькасьці Беларусаў у польскай арміі. На ягонае пытаньне: "А колькі-ж Беларусаў зьяўляюцца жаўнерамі Польскіх Узброеных Сілаў?" ён пачуў наступны адказ: "Ад 14 да 16 тысяч. Асабліва іх шмат у 5 КДП (Крэсовая Пяхотная Дывізія), якая ў сваей бальшыні складаецца зь Беларусаў". Цяжка сказаць, што падумаў пра гэта польскі генэрал, але ён згадзіўся, што іх было шмат.

Гэта гутарка зь ген. Капанскім прыгадалася таму, што якраз у ёй было закранута пытаньне ліку жаўнераў-Беларусаў у Польскіх Узброеных Сілах на Захадзе. Няма сумлеву, што Капанскі быў паінфармаваны аб тым, што пад ягоным камандваньнем было шмат Беларусаў. Аднак ані ён ні хто іншы ня ведаў дакладнага іх ліку, бо ў той час, калі ў Савецкім Саюзе тварылася польская армія, у яе рады маглі ўступаць перадусім Палякі. Беларусы-ж, Украінцы й іншыя нацыянальнасьці лічыліся савецкім урадам як грамадзяне СССР і яны, звычайна, пасылаліся ў Чырвоную Армію. Вялікая колькасьць, аднак, Беларусаў, каб вырвацца із сталінскага пекла, пазапісвалася Палякамі і, калі ім удалося прайсьці праз камісіі, былі далучаныя да польскіх адзьдзелаў. Беларусамі-ж афіцыяльна яны пачалі выяўляцца (бязумоўна, далёка ня ўсе і адно найбольш нацыянальна сьведамыя) толькі ў 1943 годзе, калі выяўленьне запраўдных даных перастала пагражаць паваротам у СССР, бо польская армія была ўжо тады ў Іраку і ў 1944 годзе, у Італіі, калі ў гэтую армію пачаў наплываць сьвежы беларускі элемэнт, між якога было шмат маладой і сьведамай інтэлігенцыі.

Але пяройдзем да галоўнае тэмы. Запраўды, колькі-ж Беларусаў было ў Польскіх Узброеных Сілах на Захадзе? Колькі іх загінула або памерла? І ці наагул можна пра гэта неяк даведацца і якім чынам? На якіх крыніцах трэба абапірацца і якімі крытэрыямі кіравацца, каб устанавіць іх лік?

Вядома, што архівы Польскіх Узброеных Сілаў захаваліся й яны знаходзяцца ў Ангельшчыне. Але доступ да іх нялёгкі. Прычым патрэбна была-б доўгая й карпатлівая праца. Нельга забывацца, што на 1-га ліпеня 1945 году Польскія Ўзброеныя Сілы на Захадзе налічвалі 228.000 чалавек. Шмат патрабавалася-б працы, каб іх усе прагледзіць, прааналізаваць ды зрабіць адпаведныя вывады.

У нашых эміграцыйных умовах, на практыцы, гэта немагчыма. Таму зьвернемся да аднэй вельмі вартаснай а няпрыкмечанай крыніцы, якой зьяўляецца выданая ў 1952 годзе польскім Гістарычным Інстытутам імя ген. Сікорскага ў Лёндане праца "Сьпіс жаўнераў

---

### *МОЖНА БЫЛО...*

*(Заканчэньне з бачыны 5-й)*

усе тэлефоны й размовы па радыё, якія вядуць між сабою кіруючы й вайсковы апараты СССР, падслухоўваюцца й перахопліваюцца станцыямі Агенцтва. Пасьля іхнага расшыфраваньня і, па меры важнасьці, яны пасылаюцца ў архівы цэнтральнага кіраўніцтва. Апрача гэтага, амэрыканскія штучныя спадарожнікі й самалёты, што лётаюць на вялікіх вышынях, увесь час патрулююць усю тэрыторыю Савецкага Саюзу (і кантынэнтальнага Кітаю), а пераказваныя імі даныя аналізуюцца дакладна спэцыялістамі Агенцтва пры помачы найнавейшых вылічальных машынаў.

У сьвятле вышэйсказанага выглядаюць проста сьмешнымі й дарэмнымі спробы саветчыкаў ашукаць Захад, будуючы фанерныя базы, або робячы здымкі вайсковых аб'ектаў. Адначасна гэта сьветчыць пра прымітыўнасьць і вялікую адсталасьць гэтак званай "перадавой савецкай навукі й тэхнікі" так разрэкламаванай хлусьлівай маскоўскай прапагандай-

*В. С.*

Польскіх Узброеных Сілаў на чужыне, загінуўшых або памершых у 1939-46 гг."(7). "Сьпіс" гэты быў апрацаваны на аснове наступных дакумантаў: 1) Кнігі Памершых, якія вялі вайсковыя сьвятары (знаходзяцца ў Ведамстве Галоўнага Капэляна ў Лёндане), 2) Сьпіс афіцэраў, загінуўшых на чужыне, састаўлены ведамствам для афіцэрскіх спраў Штабу Галоўнакамандуючага ў Лёндане, 3) Кнігі Стратаў Войска, састаўленыя Камандваньнем Дапаўненьняў і 4) Іменны Сьпіс Стратаў Пэрсаналу Паветраных Сілаў, састаўлены Гістарычнай Камісіяй ППС. Ня гледзячы на некаторыя недахопы, выкліканыя тым фактам, што дакуманты абапіраюцца на даных, сьпісваных у ваенных умовах, а не на аснове асабістых дакумантаў, што магло спрычыніцца да пэўных недакладнасьцяў сьведамых або выпадковых, кніга мае вялікую вартасьць, асабліва ў нашых абставінах, бо дае: прозьвішча й імя загінуўшага або памершага, ягоную вайсковую рангу, па меры магчымасьці дакладную дату нараджэньня (мясцовасьць, павет або ваяводзтва), дату сьмерці, месца пахаваньня (мясцовасьць і эвэнтуальна краіну), акрэсьленьне могільніка й магілы. "Сьпіс" ахоплівае пэрыяд ад моманту тварэньня Польскіх Узброеных Сілаў у Францыі ў 1939 годзе да верасьня 1946 г., калі яны пачалі ператварацца ў ПКПР (Польскі Корпус Прыспасабленьня й Разьмяшчэньня). Апроч гэтага, у канцы "Сьпісу" ёсьць "Дадатак" прозьвішчаў жаўнераў, якія пасьля ўпадку Польшчы ў 1939 г. былі ўзятыя Чырвонай Арміяй у палон, або былі арыштаваныя савецкімі ўладамі й памерлі яшчэ на тэрыторыі былой Польшчы ці былі вывезеныя ў СССР. У "Сьпісе" зьмешчана ўсяго 15.703 прозьвішчы, з чаго пасьля адлічэньня 728, якія зьмешчаны ў "Дадатку", застаецца лік 14.975 прозьвішчаў загінуўшых ці памершых у Польскіх Узброеных Сілах на Захадзе ў пэрыяд сямі гадоў (8).

"Сьпіс" падзелены на пяць частак, першая зь якіх дзеліцца, у сваю чаргу, на 12 разьдзелаў. Ён быў састаўлены часткова паводле вайсковых адзінак, а часткова паводле ваенных кампаніяў і тэрытарыяльнага і выглядае наступна (9):

| I ЧАСТКА: АРМІЯ | Лік загінуўшых або памершых | |
|---|---|---|
| 1. Францыя 1939 1940 ........................ | 127 | |
| 2. Нарвэгія 1940 ........................... | 79 | |
| 3. Самастойная Брыгада Карпацкіх Стральцоў 1941-1942................... | 212 | |
| 4. Францыя 1941-1946 ..................... | 102 | (103) |
| 5. Швайцарыя 1940-1946 .................. | 176 | |
| 6. Камандваньні й адзьдзелы ў Вялікай Брытаніі 1940-1946 ........ | 755 | (747) |
| 7. Першая Панцырная Дывізія 1943-46 | 1466 | (1572) |
| 8. Брыгада Парашутыстаў 1941-1944.. | 208 | |
| 9. Польская Армія пад камандай ген. Андэрса ў СССР 1941-1942 .......... | 2882 | (2891) |
| 10. Эвакуацыйная База ў Іране 1942 г... | 733 | (722) |
| 11. II Корпус: Сярэдні Ўсход, Італія, Вялікая Брытанія 1942-1946 .......... | 4905 | (4872) |
| 12. Вайсковыя адзінкі на Сярэднім Усходзе 1944-1946 ...................... | 201 | (202) |

| | | |
|---|---|---|
| II ЧАСТКА: ВАЕННА-МАРСКАЯ ФЛЁТА | 461 | |
| III ЧАСТКА: ПАВЕТРАНЫЯ СІЛЫ | 2177 | (2191) |
| IV ЧАСТКА: ЖАНЧЫНЫ НА СЛУЖБЕ ЎЗБРОЕНЫХ СІЛАЎ | | |
| а) Польская Жаноч. Вайск. Служба | 118 | |
| б) Юначкі .................................. | 138 | |
| в) Чырвоны Крыж ........................ | 18 | |
| V ЧАСТКА: ЮНАКІ ......................... | 217 | |
| ДАДАТАК: Жаўнеры з 1939 году, якія памерлі, або прапалі бязь вестак у СССР: | | |
| а) Жаўнеры, вывезеныя пасьля кампаніі 1939 г. у СССР, дзе й памерлі.......... | 208 | (206) |
| б) Жаўнеры, вывезеныя пасьля кампаніі 1939 г. у СССР, прапаўшыя бязь вестак ... | 520 | (521) |
| АГУЛАМ ................................ | 15703 | (15783) |

У нашым досьледзе мы будзем прытрымоўвацца крыху іншага падзелу, аб'ядноўваючы некаторыя разьдзелы й часткі ў асобныя групы, пакідаючы збоку "Дадатак" як ня маючы нічога супольнага з Польскімі Ўзброенымі Сіламі на Захадзе. Гэтак у Групу I уваходзяць разьдзелы 1,4 і 5 "Сьпісу", якія маюць найбольш недахопаў колькаснага характару і ў якіх фігуруе найменш ураджэнцаў Беларусі. Гэта вайсковыя адзьдзелы, якія былі створаныя з жаўнераў, што пасьля разгрому Польшчы ў 1939 г. рознымі шляхамі пападалі на Захад і былі заангажаваныя ў ваенных дзеяньнях у Францыі (апроч 2-й Дывізіі Стральцоў, якая перайшла ў Швайцарыю). Разьдзел 2 (Нарвэгія) зьвязаны больш з II Групай і таму яго да яе залічаем. Што да 3-га разьдзелу, паколькі Брыгада Карпацкіх Стральцоў была створаная на Сярэднім Усходзе й пазьней стала ядром 3-й Дывізіі Карпацкіх Стральцоў, мы яго далучаем да Групы III (10).

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

---

***"ЗБОРНІК ПЕСЬНЯЎ БЕЛАРУСКАГА ЖАЎНЕРА"***
***Выданьне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, 1975 г. у Саўт Рывэры, Н.Дж.***

Няведама чаму кніга гэта прэтэндуе быць зборнікам песьняў беларускага *жаўнера*, хоць у ёй усяго ў разьдзеле "Жаўнерскія песьні" налічыць можна цэлую трынаццатку.

Па прадмовах, здымках і матар'ялах відаць, што кніга плянавалася з размахам. Гэта табе не абы які зборнік песьняў быць меў.

І вялікая шкода, што тэхнічна так спэцкалі. Сорамна ў сваю бібліятэку паставіць, а ня тое, каб у якую чужую прадаць. Калі перафразаваць тую ведамую песьню пра Лявона: "заўсёды чырванець будзем, бо, відаць, прымітывы ў нас не пазводзяцца".

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Сёлета ў нядзелю 4-га верасьня, каля гадзіны 2-й папаўдні, у беларускім пасёлку Полацак ля Кліўленду адбылася Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў з Канады й ЗША. Мясцовыя й прыежджыя вэтэраны пастроіліся ў абшырнай грамадзкай залі пад камандай палк. Я. Гоўшы, які здаў рапарт прысутнаму ген. Я. Сажычу.

Адсьпявалі "Беларусь – наша Маці-краіна, а пасьля хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць загінуўшых за волю Бацькаўшчыны. Старшыня новастворанага Кліўлендзкага адзьдзелу Беларускіх Вэтэранаў палк. Я. Гоўша, паклікаўшы Сустрэчу да парадку, перадаў слова ген. Я.Сажычу, які насамперш выразіў задаваленьне, што ў Кліўлендзе паўстаў адзьдзел нашых вэтэранаў ды прывітаў прысутных гасьцей з Флярыды, Нью Ерку, Дэтройту й Канады, а таксама вітаў прысутных жанчын, што некалі былі на вайсковай службе.

У абшырнай гутарцы пра арганізацыю й дзейнасьць нашых вэтэранаў на чужыне ген. Сажыч падчыркнуў важнасьць захаваньня і ўмацоўваньня беларускіх вайсковых традыцыяў. Як прыклад добрае зарганізаванасьці ён назваў адзьдзел Беларускіх Вэтэранаў пад старшынствам капітана С.Гутырчыка ў Нью Брансвіку. Дакладчык спыніўся над пытаньнем павышаньня рангаў беларускіх вэтэранаў. Рангі трэба ўважаць як ганаровыя ўзнагароды за вайсковыя й грамадзкія заслугі. Ген. Сажыч абмяркаваў важнасьць выданьня працаў пра беларускую вайсковую гісторыю. У розныя часы ў нашай прэсе зьмяшчаліся артыкулы пра збройнае змаганьне Беларусаў за сваю волю падчас апошняе вайны. Выходзілі й пэрыядычныя часапісы, у тым ліку "Змагар", што выдаваў сьв. пам. В.Васілеўскі, а цяпер выходзіць "Зважай". Ген. Сажыч выразіў пажаданьне, каб ён стаўся ворганам Беларускіх Вэтэранаў на чужыне а для гэтага трэба стварыць кантрольную камісію й выдавецкі фонд.

Дакладчык прапанаваў, каб у наступным годзе ўшанаваць генэрала Ф.Кушаля на 10-я ўгодкі яго сьмерці. На закранутыя тэмы выказаліся прысутныя. Палкоўнік Янка Гоўша раіў ушаноўваць памяць нашых выдатных вайскоўцаў у дзень незалежнасьці ЗША; ён-жа зьвярнуўся асабіста да старшыні БАЗА й старшыні Кангрэсавага Камітэту, прапануючы з нагоды 60-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, склікаць налета 4-га ліпеня (у дзень незалежнасьці ЗША) агульны зьезд Беларусаў Амэрыкі й Канады. Там наша духавенства, быўшыя вайскоўцы, палітычныя й грамадзкія дзеячы змаглі-б, для агульнага дабра й супрацоўніцтва, абмяняцца думкамі й поглядамі. Усе прысутныя горача падтрымалі гэту прапанову.

Прысутны старшыня Камітэту Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў і рэдактар "Зважай" сп.К.Акула асьветчыў, што сп.А.Маркевіча і яго выбралі ў КСБВ у Ман"ыстары, каб супрацоўнічаць з усімі зарганізаванымі беларускімі вэтэранскімі групамі й адзінкамі, незалежна ад таго, ці яны падтрымліваюць адзін ці другі палітычны асяродак. "Зважай" апраўдаў сябе дагэтуль. Леяльнасьць інтарэсам беларускага вызвольнага змаганьня важней за шкоднае дробнае палітыканства, а нашы вэтэраны, каб маглі між сабой супрацоўнічаць, павінны трымаць сувязь. Вось чаму часапіс "Зважай" і КСБВ выканалі паважную працу.

Прысутныя на Сустрэчы згадзіліся з гэтым і пажадалі зрабіць фармальна-арганізацыйныя крокі, каб "Зважай" стаўся агульным ворганам Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне.

Гэтым Сустрэча закончылася. Прысутныя прасьпявалі наапошку некалькі беларускіх вайсковых песьняў.

*Удзельнік*

---

## ПАПРАЎКА

У мінулым нумары "Зважай", у нэкралёгу пра Уладзімера Бурновіча на бач, 7-й было сказана, памылкова, што пакінуў жонку й сына. Памерлы пакінуў жонку й дачку.

---

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Падпіска й ахвяры на "Зважай" атрыманыя ад 1-га лютага да 3-га кастрычніка сёлета:

Ю. Жывіца – 20.00 дал., з продажы – 14.00, С.Гох – 8.60, М.Буцько – 5.00, В.Тумаш – 10.43 М.Грэбень – 15.62, В.Сянкевіч – 23.30, Слонімскі – 10.43, М.Нікан – 15.00 Я.Сажыч – 10.50, Калоша – 10.50, Страпко – 5.25, Гасьцееў – 31.50, А.Маркевіч (з продажы) – 27.30, Ул. Дунец (з продажы) – 10.50, К. Акула – 20.00 , Я.Гоўша – 10.50

Разам – 248.43 канад. дал.

*Усім ахвярадаўцам вялікае дзякуй!*




*Эгіпет адмовіўся плаціць Маскве доўг за зброю ў суме 4 міліярдаў даляраў, згадаўшы, што самі Маскалі не заплацілі Амэрыцы за зброю з апошняе вайны. Прэзыдэнт Садат цьвердзіць, што Масква хоча зрабіць з Эгіпту сваю калёнію. У сувязі з гэтым зьмяшчаем "картун" з "Таронта Сан".*